Маладзечна, Вілейка, Смаргонь, Ашмяны, Валожын, Мядзел, Астравец, Мінск

# Рэгіянальная газета

No 34 15- 21 снежня 1995 года ЦАНА 700 рублёў

ІНФАРМАЦЫЙНА-РЭКЛАМНАЕ ВЫДАННЕ

## Парламент у Беларусі выбраны!

***Усяго другі тур выбараў праходзіў у 119 выбарчых акругах. Выбары адбыліся ў 76, выбрана 59 дэпутатаў. Па Брэсцкай вобласці прагаласавала 56,7% выбаршчыкаў, Віцебскай— 48,2%, Гомельскай— 56,4%, Гродзенскай— 48,6%, Магілёўскай— 57,8%, Мінскай— 54,5%. Па гораду Мінску прыйшло да выбарчых урнаў 48,9%. Усяго працэнт яўкі выбаршчыкаў на другі тур паўторных парламентскіх выбараў складае 52,4%.***

Сярод выбраных 31 беспартыйны і 28 партыйных. Па партыйнай прыналежнасці дэпутаты размеркаваліся наступным чынам: лідыруюць камуністы— 10 мандатаў. Аб'яднаная дэмакратычная партыя— 4, Грамадзянская партыя— 2, Партыя народнай згоды— 5, Партыя Усебеларускага адзінства і згоды—2, Сацыяльна-спартыўная партыя— 1, Беларуская партыя працы— 1, Экалагічная партыя— 1, Беларуская народная партыя— 1, Беларуская сацыял- дэмакратычная грамада— 1. Па абласцях: у Брэсцкай вобласці пасля першага тура паўторных выбараў незапоўненымі былі 18 акругоў, 10 снежня выбары адбыліся ў 13 акругах, выбрана 8 дэпутатаў; у Віцебскай вобласці праходзілі выбары ў 11 акругах, у 7 адбыліся, выбрана 5 дэпутатаў; у Гомельскай вобласці праходзілі выбары ў 14 акругах, у 11 адбыліся, выбрана 8 дэпутатаў; у Гродзенскай вобласці выбары праходзілі ў 11 акругах, адбыліся ў 5, выбрана 4 дэпутата; у Магілёўскай вобласці выбары праходзілі ў 14 акругах, адбыліся ў 13, выбрана 9 дэпутатаў; у Мінскай вобласці выбары праходзілі ў 14 акругах, адбыліся ў 11, выбрана 10 дэпутатаў; горад Мінск— выбары праходзілі ў 39 акругах, адбыліся ў 16, выбрана 15 дэпутатаў.

Такім чынам, парламент у Беларусі выбраны. Усяго ў Вярхоўным Савеце з улікам веснавых выбараў налічваецца 198 дэпутатаў. Размеркаванне дэпутацкіх месцаў па асноўных партыях: прадстаўнікі ПКБ— 42, Аграрнай партыі— 34, Аб'яднанай Грамадзянскай патрыі— 7, Партыі народнай згоды— 8, саюзнікі ПНЗ па блоку Сацыял-дэмакратычны саюз— Беларуская сацыял- дэмакратычная Грамада— 2, Партыя Усебеларускага адзінства і згоды— 2. Прадстаўнікоў ад БНФ у Вярхоўным Савеце 13-га склікання пакуль няма. Вакантнымі застаюцца яшчэ 62 месцы ў парламенце.

*СІМ*

***Мечаслаў Грыб лічыць, што першае паседжанне рэальна можа адбыцца ўжо ў канцы снежня.***

У каментарыі карэспандэнту СІМ аб другім туры паўторных выбараў спікер парламента Мечаслаў Грыб заявіў: "Гэта перамога дэмакратыі, людзі выказаліся за закон і дэмакратыю. Дзякуй суграмадзянам. Нягледзячы на ціск, людзі на выбары прыйшлі, выканалі свой грамадзянскі абавязак. На пытанне, калі на думку спікера адбудзецца першае паседжанне парламента, пан Грыб адказаў: "Гэта пытанне да Абрамовіча, рэальна гэта магчыма 26 снежня- 3 студзеня".

У каментарыі аб адносінах новага парламента да прэзідэнта пан Грыб заявіў:— Адносіны павінны быць на выснове Канстытуцыі, што было, тое было, гэта трэба пакінуць у гісторыі, у нас ёсць законы, трэба не адступаць ад іх ні нам, ні яму (маецца на ўвазе прэзідэнту, заўвага СІМ).

*СІМ*

***МАЛАДЗЕЧНА. У горадзе з трох выбарчых акруг выбары адбыліся ў дзвюх.***

Дэпутатамі па іх сталі Пётр Краўчанка, былы міністр замежных спраў РБ і Антон Раманоўскі, прэзідэнт Беларускага таварыства Чырвонага крыжа. Па акрузе №198, дзе мандат аспрэчвалі Аляксандр Лазоўскі, уласны карэспандэнт рэспубліканскага радыё і Аляксандр Капуцкі, кансультант гарсавета, выбары не адбыліся, паколькі ў іх прыняло ўдзел менш паловы выбаршчыкаў, унесеных у спісы.

***МЯДЗЕЛ. Вось і завяршылася нарэшце-такі барацьба за мандат дэпутата Вярхоўнага Савета трынаццатага склікання па Мядзельскай выбарчай акрузе № 201. Ажно пятнаццаць чалавек паспрабавалі ў ёй сілы, трымалі экзамен на давер народа.***

Вытрымаў яго ў рэшце рэшт толькі Эдуард Вайцяховіч, дырэктар Свірскага прафтэхвучылішча № 207. Прытым, даволі ўпэўнена. У мінулую нядзелю Эдуард Антонавіч набраў 12818 галасоў, што складае 63,7% ад прыняўшых удзел у галасаванні.

Па ўсіх выбарчых участках у Эдуарда Вайцяховіча была перавага. За яго саперніка па другому туру Георгія Таразевіча прагаласавала ўсяго 5017 выбаршчыкаў.

У заключэнне яшчэ дадам, што, нягледзячы на шматлікія песімістычныя прагнозы, выбары ў раёне прайшлі даволі актыўна, у іх прынялі ўдзел 67,8 працэнта жыхароў, унесеных у спіс для галасавання.

*Янка ВАСІЛЕЎСКІ.*

## Разулі вілейскіх газетчыкаў

***Ведалі злодзеі, за чым лезлі ў гараж вілейскай раёнкі. І бралі толькі тое, што намецілі: новыя пярэднія колы ад УАЗіка. Навюткі ж акумулятар не кранулі. Відаць, пры акумулятары былі злачынцы. Хіба наступны раз і ён спатрэбіцца.***

Каго толькі не выручаў наш брат-журналіст…

*Аддзел інфармацыі.*

### Развод па разліку

## РВЭС = РВС - РВПС

***Каб зразумець гэты выраз, не трэба ведаць матэматыку. З 1-га лютага раённы вузел сувязі (РВС) у Вілейцы (Маладзечне, Ашмянах, Астраўцы і г. д.) будзе падзелены на раённы вузел паштовай сувязі (РВПС) і раённы вузел электрасувязі (РВЭС).***

Загад аб такім раздзеле падпісаны міністрам інфарматыкі і сувязі Уладзімірам Ганчарэнкам. Замест аднаго начальніка стане два начальнікі, замест аднай бухгалтэрыі— дзве бухгалтэрыі. Замест страт— паштавікі будуць прыносіць толькі прыбыткі. Праўда апошняе— толькі добрыя намеры высокага начальства ды вынік таго, што Беларусь у 1992 годзе ўзяла крэдыт у Міжнароднага валютнага фонда пад развіццё сувязі. Умовай крэдыту было раздзяленне сувязі на паштовую і электрычную.

Паштавікі не вельмі баяцца разводу з электрасувяззю. Яны даўно ужо спасціглі камерцыйны бізнес. 36 аддзяленняў сувязі ў Вілейцы і раёне, скажам, даўно засвоілі ўрокі выжывання, ператварыўшыся з поштаў у 36 звычайных камкоў, што гандлююць пральнымі парашкамі ды калготкамі. Усім жыць хочацца. А паштальён таксама чалавек.

*Мікола ГАЙДУК*

## Няма нічога прасцей, як падрабіць візу

***АСТРАВЕЦ. На кантрольна-прапускным пункце "Лоша" астравецкай пагранкамендатуры ў апошні час вельмі заклапочаны актыўнай дзейнасцю некаторых грамадзян Літвы. Як вядома, уезд у нашу краіну жыхароў гэтай дзяржавы толькі візавы, за выключэннем тых, хто мае права карыстацца спрошчанымі прапускамі. А візы бываюць шматразовыя і аднаразовыя, прычым апошнія афармляюцца нашмат дзешавей.***

Людзі часта вельмі ўдала праяўляюць свае таленты. Так, падробка візавага дакумента для многіх жыхароў Літвы стала, відаць, даволі простай работай, паколькі нашы пагранічнікі ў апошні час сустракаюцца з гэтай з'явай нярэдка. Шляхам механічных або хімічных падчыстак выводзіцца канчатковая дата тэрміну візы і падстаўляецца падобнымі чарніламі свая. Аднак мясцовыя пагранічнікі з дапамогай спецыяльнага абсталявання хутка выяўляюць такога роду махінацыі.

Такім чынам, праблемы нібыта і няма. Але начальніка пагранічнага кантролю гэтага КПП Р. І. Вабішчэвіча турбуе тое, што наша заканадаўства не разлічвала на такі спрыт суседзяў, а таму не прадугледзела метады іх пакарання. А паколькі такіх "хімікаў" пагранічнікі могуць толькі адправіць назад, не маючы права прымяніць да іх іншыя меры, то іх становіцца ўсё больш і больш, упэўненых што "пранясе". Бывала і такое, што адзін і той жа чалавек пападаўся з падробленымі дакументамі нават па два разы. Спадзявацца на іх сарамлівасць, як бачна, нашым пагранічнікам не даводзіцца.

*Галіна ФРАНЦКЕВІЧ*

## За ўладу возьмуцца медыкі

***І другі тур паўторных выбараў у Маладзечанскі гарадскі Савет не вызначыў канчаткова і поўны склад дэпутатаў мясцовай заканадаўчай улады. З неабходных 45 на сённяшні дзень у спісе дэпутатаў лічацца пакуль толькі 11.***

У ходзе паўторных выбараў заўважную актыўнасць праявілі маладзечанскія медыкі. Дзесяць кандыдатаў прэтэндавалі на дэпутацкія мандаты. Праўда, да фінішу дайшлі чацвёра: галоўны ўрач гарадской дзіцячай бальніцы, загадчык інфекцыйнага аддзялення супрацьтуберкулёзнага дыспансера, галоўны ўрач раддома і ўчастковы ўрач паліклінікі.

*Віктар ШУМСКІ.*

## Пра Маладзечна ведаюць і ў ЗША

***Не толькі ходам выбараў у Вярхоўны і мясцовыя Саветы Беларусі цікавіўся ў час знаходжання ў Маладзечне 10 снежня Надзвычайны і Паўнамоцны пасол ЗША ў нашай краіне Кеннет С. Яловіц.***

У час сустрэчы ў гарвыканкоме высокі госць атрымаў вычарпальную інфармацыю аб эканамічным, культурным патэнцыяле горада, магчымасцях рознабаковага супрацоўніцтва з партнёрамі з-за акіяна. Была б толькі надзейная гарантыя, заканадаўчая база для аховы і капіталу, і прыбытку. Зразумела, найбольшая прыхільнасць выказвалася да адносін з недзяржаўным сектарам эканомікі, які ў Маладзечне даволі моцны.

Аддаў даніну памяці і павагі пан пасол ахвярам шталага-342, наведаўшы ўзведзены сёлета на яго месцы мемарыяльны комплекс.

А што тычыцца выбараў, то дыпламат застаўся задаволены і іх арганізацыяй непасрэдна ў дзень галасавання, і магчымасцямі для свабоднага волявыяўлення выбаршчыкаў.

*Валянцін ЛІПНІЦКІ*

## Новы кіраўнік міжрайпракуратуры

***МАЛАДЗЕЧНА. На гэтым тыдні маладзечанскім міжрайпракурорам прызначаны Генадзь Збігневіч Вештарт.***

Яго папярэднік Міхаіл Міхайлавіч Каляда будзе кіраваць мінскай раённай пракуратурай.

*Аддзел інфармацыі*





### Не да жыру

## Абноўку трымаюць на продаж

***АСТРАВЕЦ. Толькі аднаму калгасу ў раёне ўдалося сёлета здабыць новенькі трактар МТЗ-82. І тое, па бартэру.***

І хоць становішча з тэхнікай у гэтай гаспадарцы ні чуць не лепшае, чым у іншых (60 працэнтаў трактарнага парку можна спісваць з-за нягоднасці), усё ж новую тэхніку ў калгасе пакуль што яшчэ ні за кім не замацавалі, матывуючы гэта тым, што, магчыма, трактар прыйдзецца прадаваць, паколькі калгаснікі ўжо каторы месяц сядзяць без зарплаты.

Дорага каштуюць зараз асобныя запчасткі, а ўжо аб новенькіх машынах механізатарам даводзіцца толькі марыць. Калі ў 1990 годзе гаспадаркі раёна набылі 73 трактары, 41 грузавы аўтамабіль, столькі ж сеялак, 14 збожжаўборачных камбайнаў і 63 культыватары, то за 1994-95 гады было куплена толькі невялікая колькасць прычапнога сельгасінвентару. Аўтамабілямі, камбайнамі ды трактарамі калгасныя мехдвары не абнаўляліся нагогул.

Таму на сённяшні дзень па раёну спісанню належыць 25 працэнтаў трактарнага парку, 32— грузавых аўтамабіляў, столькі ж збожжаўборачных камбайнаў, 48— сеялак і на 38 працэнтаў ад агульнай колькасці плугоў.

*Галіна ФРАНЦКЕВІЧ*

**У ПОШУКАХ СВЕДКАЎ.** Дзяржаўтаінспекцыя Маладзечна яшчэ раз звяртаецца да сведак здарэння, якое адбылося 26 лістапада ў Маладзечне па вул. Касманаўтаў насупраць дома №1, пры якім пенсіянер Антон Дасюкевіч атрымаў цялесныя пашкоджанні. Аўтамашына, як мяркуецца, БМВ, з месца здарэння знікла. Вадзіцель дадзенай аўтамашыны не павінен пазбегнуць адказнасці, таму грамадзян, якія бачылі нешта, або тыя, хто ведаюць што-небудзь аб месцы знаходжання аўтамашыны, просім патэлефанаваць 02 або ў ДАІ па тэл. 54444. Не заставайцеся абыякавымі, бо гэта магло здарыцца і з вамі.

*Дзяржаўтаінспекцыя*

# Гэта — не сон. Гэта — рэальнасць. Праўда, не для беларускіх школ.

***...У групе дзіцячага сада — дзяжурны столік з ежай, да якога ў любы час могуць падбегчы выхаванцы і падмацавацца. Адзінае патрабаванне: пад'еў — прыбяры за сабой, памый посуд.***

***На ўроку рэлігіі ў пачаткоўцаў дырэктар школы іграе на гітары і спявае разам з вучнямі. А класы тут сфарміраваны па веравызнанню вучняў, хаця для ўрокаў рэлігіі выдзяляецца толькі дзве гадзіны на тыдзень.***

У класным журнале няма графы для ацэнак. Іх наогул настаўнік не ставіць! Веды ацэньваюцца па выніках кантрольных работ, якіх па кожнаму прадмету ў год праводзіцца ад чатырох да шасці. Заданні на дом для кожнага вучня індывідуальныя, раздрукаваныя настаўнікам на камп'ютэры.

Школьныя падручнікі выдатна ілюстраваныя, што, не чытаючы тэксту, па схемах і малюнках можна зразумець, аб чым ідзе размова.

Дырэктар школы не ведае, колькі ў яго тэхнічак. Аб гэтым клапоціцца гарадская мэрыя, як і аб рамонце, матэрыяльным забеспячэнні школы. А бацькам вучняў не трэба з надыходам халадоў уцяпляць вокны ў класах. Яны зроблены так адмыслова, што зачыняюцца без адзінай шчыліны.

І ўжо зусім неверагоднае. Калі настаўнік па нейкай прычыне спазняецца ці не з'яўляецца на ўрок, вучні не носяцца з падручнікамі адзін за адным. Яны рыхтуюцца самастойна. Яны хочуць вучыцца! Калі бацька на веласіпедзе вязе дачку са школы, яна ўмудраецца нават у дарозе рыхтавацца да ўрокаў...

Што гэта? Школа будучага? Для нас, напэўна, так. А для жыхароў заходнегерманскага горада Рытберга — гэта рэальнасць, сённяшні дзень іх адукацыі. Сямёра настаўнікаў з Радашковічаў вярнуліся нядаўна адтуль, дзе іх прымалі настаўнікі рэальнай школы на чале з яе дырэктарам фраў Агнес Вайсберг. Радашковіцкая сярэдняя школа ў хуткім часе павінна ўвайсці ў лік вельмі нямногіх школ нашай Беларусі, якія маюць афіцыйна прызнаных на ўзроўні Міністэрства адукацыі партнёраў у замежжы. Нямецкія калегі ўжо былі два гады таму ў Радашковічах. У адказ запрасілі нашых настаўнікаў пагасціць у іх дзесяць дзён, аплаціўшы, зразумела, усе выдаткі і стварыўшы ідэальныя ўмовы для вывучэння іх сістэмы адукацыі, знаёмства з культурнымі традыцыямі Зямлі Заходняй Рэйн-Вестфаліі.

А летам, па словах дырэктара школы Анатоля Аляксеевіча Зыля, Радашкоўцы прымуць у сябе больш чатырох дзесяткаў нямецкіх школьнікаў — удзельнікаў мастацкай самадзейнасці. Распрацоўваецца ў школах-партнёрах і сумесная праграма вывучэння англійскай мовы.

***Анжаліка КРУПЯНЬКОВА***

# У войску патрэбны не толькі здаровыя, але і разумныя

***АСТРАВЕЦ. У раённым выканкоме зараз гарачая пара — пачаўся чарговы набор ва ўзброеныя сілы дзяржавы. На гэты раз 64 юнакі раёна папоўняць пагранічныя войскі, сувязі і МУС. Адпраўка navабранцаў плануецца адбыцца ў 4 этапы. І хоць за апошнія гады стала цяжэй пазнаёміць хлопчыкаў з ваеннай справай у школах (такога прадмету, як ПВП, што практыкаваўся раней, цяпер наогул няма ў школьнай праграме), усё ж у раённым ваенкамаце выказалі надзею, што астравецкія воіны не падвядуць і будуць з гонарам выконваць свой абавязак у радах узброеных сіл краіны.***

Аднак, як выявілася ў ходзе размовы з ваенкомам раёна А. А. Чыграем, нельга не абысці ўвагай і той факт, што здароўе і агульнаадукацыйны ўзровень нашых навабранцаў падае год ад году. Асабліва гэта назіраецца сярод вясковай моладзі. Растлумачыць гэта можна толькі адным — недахоп грошай як у сямейных бюджэтах, так і ў сферах адукацыі і медыцыны. Таму ўжо ў бягучым годзе мясцовы ваенкамат сумесна з райпалiклінікай вырашылі ўзяць пад строгі кантроль усіх 14-гадовых юнакоў раёна — будучых салдат, з мэтай выяўлення і прафілактыкі захворванняў. Ну а школа, відаць, паклапоціцца аб агульнаадукацыйных ведах.

***Галіна ФРАНЦКЕВІЧ***



Цяжка ўявіць наш стол без мяса. У Смаргонскім раёне самы буйны пастаўшчык свініны— комплекс "Андрэеўцы", што ў калгасе "Светлы шлях". Ванда Міхальчанка— адна з тых даглядчыц, у каго маладняк расце як на дражджах.

***Фота Міхася РАЗУМНІКА.***

# "Сын сатаны"

***У сераду хлопцу споўнілася васемнаццаць. А ў мінулую нядзелю да Каранеўскіх з Маладзечна прыйшлі сваякі, каб павіншаваць Юрыя з паўналеццем. Звычайнае сямейнае свята з пажаданнем шчаслівага лёсу і здароўя. І, можа, збылося б тое жаданне, калі б неўтаймоўная актыўнасць юнака мела добры накірунак...***

Ад бацькоўскага хлебасольства ў гэты дзень (10 снежня г. г.) яго сцягнулі "вулічныя прыгоды". Купіў дзве бутэлькі. Распіў з сябрамі. Сябры разышліся. А "душа патрабавала" працягу. У падпітку дадаў яшчэ з незнаёмымі на вуліцы.

—18 гадоў святкую!

На дыскатэцы ў кінатэатры "Радзіма" Юрый скакаў, не зважаючы на тое, які выгляд мае з боку. У поўнач музыка скончылась і арганізатары дыскатэкі пачалі збіраць апаратуру. Толькі шалёны хлапец усё патрабаваў музыкі. Ён жадаў працягу свайго свята.

У гэты момант у танцавальнай зале "Радзімы" быў Вячаслаў Раловец са сваёй дзяўчынай Інай. Невядома чаму, але менавіта да яго прычапіўся Каранеўскі. Вячаслаў і вядучыя дыскатэкі, якія наводзілі парадак у зале, спрабавалі супакоіць нецвярозага. Але той лез на ражон.

—Мы вас пачакаем на вуліцы,— сказаў Вячаслаў сябрам. І каб адчапіцца ад нястрымнага юнака, пайшоў з дзяўчынай.

Начная цемра ля кіно "Радзіма". Толькі святло ад ліхтароў. Мяккі снег прыемна паскрыпвае пад нагамі. У чаканні Вячаслаў размаўляе і Інай, як зноў да яго чапляецца п'яны юнак. Ён хоча бойкі. Ён яе распачынае. З кішэні з'яўляецца нож. Удар у жывот. Другі— у плячо. І на ўцёкі, кінуўшы нож у бок...

—Юра, чаму? Навошта? За што?— пытаюцца ў хлопца, калі працвярозеў.

—Не ведаю. Неўтаймоўны я... сын сатаны...,— загадкава кажа ён пра сябе.

Каранеўскі быў затрыманы на месцы здарэння. Раловец шпіталізаваны ў цяжкім стане. Вось так скончыўся "баль"....

***Святлана САРОКА***

# Украсці— укралі. Выпіць не паспелі

***МЯДЗЕЛ. Складаецца такое ўражанне, што магазін вёскі Баяры прыцягвае злодзеяў, нібыта мёд мух. Днямі яго абрабавалі ўжо ў трэці раз за апошні час.***

Цёмнай снежаньскай ночкай, узламаўшы манціроўкай хілыя запоры на хлебапрыёмным акне, злачынцы трапілі ў гандлёвы пункт на цэнтральнай сядзібе калгаса "Ленінскі шлях". Яны вынеслі адтуль спіртнога, прадуктаў харчавання больш як на мільён рублёў. Крадзёж выявілі раніцай. На месца здарэння выехалі супрацоўнікі міліцыі. І хаця сума нанесенага ўрону па сённяшніх цэнах не такая і вялікая, яны энергічна ўзяліся за пошук злачынцаў.

Да абеду злодзеяў удалося ўстанавіць. Імі аказаліся мясцовыя жыхары Уладзімір Цыркулеўскі і Юрый Танана. На іх узбуджана крымінальная справа. Вядзецца следства.

Гэтага крадзяжу, на думку следчага Мядзельскага РАУС Сяргея Сакалова, магло і не быць, каб магазін у свой час умацавалі належным чынам.

***Алесь ДЗЯГІЛЬСКІ***

Яно было, было ...

# Застаецца ў памяці і на сумленні нашым...

***1945-1949 г. г. Крымінальныя справы гэтых гадоў па Маладзечанскаму (да 45— Вілейскаму) абласному суду і па народнаму суду г. Маладзечна самыя разнастайныя: самагонакурэнне (тое самае, што самагонаварэнне), хабарніцтва, крадзёж, парушэнне правілаў дарожнага руху (адносілася да дзяржаўных злачынстваў), забойства, узброены бандытызм, нявыплаты падаткаў....***

Спынімся на апошніх. За нядоімкі, ці своечасова не здадзеныя сельгаспадатак аднаасобнікі неслі пакаранне. І, як вядома, жорсткае. Але за амаль аднолькавае парушэнне (на сучасны позірк) мера пакарання магла быць рознай. Вось некалькі судовых гісторый, якія і сёння захоўвае Маладзечанскі філіял Дзяржаўнага архіва.

Звычайная грамадская справа. Такіх шмат. 1946. Маладзечанскі райфа выстаўляе жыхарцы вёскі Лебедзева Соф'і Астроўскай іск на 130 рублёў. Народны суд прымае рашэнне згодна з інструкцыяй Мінфіна №539: апісаць маёмасць. Справа цягнецца 4 дні. Прысутнасць Астроўскай на судзе палічана неабавязковай. Дарэчы, Клаўдзія Малышава ў гэты ж час спаганяе ў гэтым жа судзе з таго ж райфа сваю зарплату на працягу паўтара года.

Нормы сельгаспадаткаў ў 46-м наступныя: збожжавых— 90 кг з га, бульбы— 150 кг з га, сена— 20 кг з га. Дзяржава плаціла аднаасобніку грошы за здадзены сельгаспрадукт, але малыя. Як сведчаць дакументы, жыхар вёскі Шыпулічы Міхаіл Дземеш за 260 кг бульбы атрымаў 10 рублёў 50 кап., за 68 кг аўса— 5 рублёў 16 кап. (46 г.). Для параўнання: адвакат Дворман толькі за ўдзел у крымінальнай справе Дземеша меў 300 рублёў.

Гэтаму селяніну непашчасціла. Ён быў аднесены да "зламысных неплацельшчыкаў падаткаў", хаця меў мізэрную гаспадарку і вялікую сям'ю. Яго нядоімка склала 110 кг збожжа. 8 кастрычніка 46-га ў хату да Дземеша прыйшлі ўпаўнаважаны райкома Ханецкі, намеснік старшыні райвыканкома Вусаў, старшыня сельсавета Вайніцкі і агент Тынкевіч. Патрабавалі здаць нядоімку. Збожа не было. На вочы трапіў мех аўса, які камісія вырашыла забраць. Гаспадар абурыўся.

—Скурадзёры! Ты, Вус, усю вайну нас рабаваў. І яшчэ не награбіўся, дзезерцір!

Безумоўна, такія словы не даруюць. Абражаныя прадстаўнікі ўлады, свае ж, мясцовыя, склалі акт... Гэтага дастаткова, каб засудзіць Дземеша на 3 гады пазбаўлення волі ў выпраўленча-працоўным лагеры. Не дапамог нават той факт, што перапалоханы гаспадар на наступны дзень (9 лістапада 46 года) сам здаў апошні мех аўса.

А вось як раскулачвалі ў 45- 46-м Ядвігу Стэцкую з вёскі Баршчы. Буйная кулачка. У польскі час мелі з мужам моцную гаспадарку: 35 гектараў зямлі, 20 рагатых жывёлін, 30 авечак, 20 парсюкоў, вялікі сад, прыватны маслазавод, 7 чалавек наёмных рабочых і 15 сезонных. З усталяваннем савецкай улады гаспадарка прыйшла ў заняпад. Муж Павел, як антысаветчык, быў на ўцёках з 40-га году. Непісьменная Стэцкая "цягнула" гаспадарку з дапамогай двух работнікаў. У 45-м яна здала дзяржаве 2100 кг хлеба, 100 кг мяса, 270 літраў малака.

У верасні 45-га капітан Корсунаў з НКДБ арыштаваў Стэцкую як нямецкую памагатую і за ўтойванне зямлі ад падатку. Данеслі на кулачку зайздрослівыя суседзі і мясцовы "швондзер", якія амаль на наступны дзень пасля арышту абмалацілі кулацкае збожжа і падзялілі паміж сабой.

Стэцкай пашчасціла, што саўдзельніцтва з немцамі не пацвердзілася і НКДБ перадала справу (з'ява надзвычай рэдкая на той час) нарсуду. 5 гадоў пазбаўлення волі ў выпраўленча- працоўным лагеры з канфіскацыяй маёмасці— вынес рашэнне суд.

З дакладной запіскі Міністэрства юстыцыі СССР і БССР аб выніках праверкі Маладзечанскага абласнога суда. Старшы рэвізор абласнога ўпраўлення МО СССР Міронаў:

...У 1949 годзе паступіла ў абласны суд 373 справы. З іх 80,3 % пакінута ў сіле, адменена— 9,3%. Нізкі працэнт пакінутых у сіле прыгавораў з'яўляецца вынікам значнай колькасці памылак з боку членаў абласнога суда пры разглядажанні спраў...

За вынясенне "ліберальных прыгавораў" быў пазбаўлены пасады старшынствуючы на паседжаннях абласнога суда у 48-49 гадах Шафранскі. Ён апраўдаў у 49-м 20-ці гадовага Цярэшку (быў звезены ў час вайны ў Германію), Анопа, Малажавага, Кульбіцкага, Гаўрылёнка і іншых. Усіх іх па пратэсту пракурора засудзілі ад 8 да 10 гадоў пазбаўлення волі. У гэтым жа годзе была асуджана на 3 гады пазбаўлення волі следчая пракуратуры г. Маладзечна Міра Ягліновіч за прысвойванне 1 тысячы рублёў і рэчаў падследных.

Па афіцыйных дадзеных ад палітычных рэпрэсій 20- 50-х гадоў на Беларусі пацярпела звыш 250 тысяч грамадзян і яшчэ каля 350 тысяч неабгрунтавана рэпрэсіраваны ў адміністрацыйным парадку праз суды, як нашы сяляне.

***Святлана САРОКА***

*"Рэгіянальная газета" выказвае падзяку супрацоўнікам Маладзечанскага філіяла Дзяржаўнага архіва за дапамогу ў падрыхтоўцы матэрыяла.*

